**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№9(673)**
**28 лютага 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



Зіма мінула!

## Ваша бяспека ў вашых руках!
# «Тэхагляд абавязковая працэдура»

■ **Завадскі А.І.,**
*старэйшы аўтаінспектар АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

**Аналіз аварыйнасці адлюстроўвае павелічэнне ДТЗ па прычыне эксплуатацыі няспраўнага транспарту. У 2012 годзе супрацоўнікамі АДАІ Глыбоцкага РАУС выяўлена 567 парушэнняў правіл эксплуатацыі транспарту, г.зн. грамадзяне кіравалі транспартным сродкам не маючы допуску, які дазваляе эксплуатацыю транспартнага сродку. Эксплуатацыя няспраўнага транспарту стварае рэальную пагрозу жыцця і здароўя грамадзян.**

У 2012 годзе мы сутыкнуліся з праблемай эксплуатацыі транспарту прадпрыемствамі аграпрамысловага комплексу. На дарогах раёна часцяком можна было сустрэць няспраўныя прычэпы, трактары і аўтамабілі, тэхагляд якіх не праводзіўся гадамі. Мы разумеем, што сёння не хапае грашовых сродкаў, што трэба хутчэй прыбіраць ураджай, але нішто так не шануецца як чалавечае жыццё. Хоць часцяком бяда прыходзіць тады, калі яе не чакаеш. Можа абарвацца рулявая цяга, могуць адмовіць тармазы, стрэліць кола і г.д.

Рэкамендуем вадзіцелям індывідуальнага транспарту, вадзіцелям і службовым асобам прадпрыемстваў і арганізацый добрасумленна паставіцца да падрыхтоўкі тэхнікі да веснавога сезону эксплуатацыі, своечасова прайсці тэхагляд.

Нагадваем службовым асобам пра іх адказнасць за ўтрыманне транспартных сродкаў у тэхнічна няспраўным стане і выпуск на лінію транспартных сродкаў з не пройдзеным дзяржтэхаглядам.

За эксплуатацыю транспартнага сродку, які не прайшоў ва ўсталяваным парадку дзяржтэхагляд, прадугледжаны штраф да 200000 рублёў.

За допуск да эксплуатацыі транспартнага сродку, які не прайшоў ва ўсталяваным парадку дзяржтэхагляд, на службовую асобу накладаецца штраф у суме ад 400000 да 600000 рублёў.

## Полацкі раён

# Новыя амбіцыі гіганта

■ Станіслаў Раманчук

**І раней усіх уражвалі вялізныя вытворчыя плошчы і маштабныя канструкцыі шматлікіх установак буйнейшага прадпрыемства вобласці - Наваполацкага ААТ “Нафтан”, якое напрыканцы зімы адзначыла свой паўвекавы юбілей.**

На гэтым флагмане галіны ўжо некалькі гадоў дынамічна вядзецца тэхпераўзбраенне і ў бліжэйшы час гігант стане не пазнаць. Толькі на суперсучасны адзін з комплексаў запаволенага каксавання і вырабу коксу з мазуту пойдзе амаль 800 млн. долараў інвестыцый. На завод ужо даставілі патрэбную ёмкасць аб’ёмам 130 тон і даўжынёй 21 метр. Сам працэс перавозкі такога буйнагабарытнага груза заняў 10 сутак. На “Нафтане” раней, чым на аналагічных прадпрыемствах у Расіі, стварылі і запусцілі новыя ўстаноўкі па вырабе аўтамабільнага паліва па стандартах Еўра-4 і Еўра-5. Да 70 % гэтай прадукцыі адгружаецца цяпер на экспарт, а ўсяго на буйным заводзе выпускаюць да 70 найменняў рознай прадкукцыі. За час сваёй дзейнасці нафтаперапрацоўшчыкі з Наваполацка з пастаўленых 720 млн. тон сыравіны вырабілі патрэбную розным галінам прадукцыю нафтахіміі. Напярэдадні свайго юбілею на заводзе запусцілі яшчэ адразу некалькі новых тэхналагічных установак, самая сучасная з якіх вакуумны блок “Вісбрэкінг” магутнасцю 1,6 млн. тон паліва. А вось ужо вясной вытворчасць састарэлага бензіну маркі “Нармаль-80” тут спыніцца і нідзе ў краіне яго болей не будуць выбраляць. Толькі новыя ўстаноўкі забяспечаць нафтанаўцам неабходную якасць прадукцыі па еўрапейскіх стандартах.

## Браслаўскі раён

# Загучаць дзіцячыя галасы

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам у глыбінцы наваселлі сталі рэдкасцю пасля згортвання дзяржаўнай праграмы адраджэння вёскі і стварэння ў сельскай мясцовасці аграгарадкоў.**

А вось у гарпасёлку Відзы, што ў Браслаўскім раёне, дачакаліся сёлета такой радаснай падзеі. У гэтым мястэчку, знакамітым сваім самым высокім у Беларусі касцёлам св. Тройцы з вышынёй вежаў 59 метраў, пабудавалі за кошт бюджэтных сродкаў прасторны і светлы асабняк. Ён стане першым у азёрным краі дзіцячым домам сямейнага тыпу, разлічаным на 8 чалавек. З надыходам цёплых дзён завершаць абуладкаванне прылягаючай тэрыторыі, каб было ўтульна пражываючым. Адведзены ўчастак для пасадкі саду і ягад, вядзенне прысядзібнай гаспадаркі. На Браслаўшчыне дагэтуль дзейнічалі розныя ўстановы сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, прэстарэлых і інвалідаў, а вось для дзетак з пакрыўджаным лёсам зроблена першая. Райаддзел адукацыі цяпер падбярэ дастойную сям’ю, якая падыходзіць для таго, каб прыняць і абагрэць, акружыць ласкай і клопатамі дзяцей-сірот, пакінутых гора-бацькамі. Самі ж будаўнікі пастараліся, каб дзіцячы дом атрымаўся прыгожым і парадаваў навасёлаў. Сямейныя каштоўнасці пакрыху тут будуць умацоўвацца, а дзеці павінны вярнуцца ў атмасферу сямейнага шчасця і радасцей дзяцінства. Да канца 2013 года ў Віцебскай вобласці будуць здадзены яшчэ два дзіцячыя дамы сямейнага тыпу ў Бешанковіцкім і Талачынскім раёнах.

## Пастаўскі раён

# З надзеяй на лепшыя перспектывы

■ Кастусь Александровіч

**Вельмі складаным і напружаным абяцае стаць гэты год для калектыву Пастаўскага льнозавода.**

Адно з буйнейшых у Беларусі прадпрыемстваў галіны з амаль 70-гадовай гісторыяй уключылі ў дзяржаўную праграму мадэрнізацыі і развіцця льнаводства. Па гэтай праграме ўжо набылі ў Бельгіі сучасную высокапрадукцыйную лінію “Deportete” коштам 28 млрд. рублёў па перапрацоўцы доўгага валакна. Але каб забяспечыць яе поўную загрузку, неабходна разы ў 3 павялічыць пасяўныя плошчы па вырошчванні даўгунцу. Дагэтуль у раёне лён сеялі толькі на плошчы адна тысяча 300 гектараў тры гаспадаркі, з якіх - каля тысячы сам льнозавод. Аднак і летась зноў праца па яго ўборцы зацягнулася да халадоў, шэраг залітых дажджамі палеткаў так і застаўся зімаваць. Да таго ж у прадпрыемства ў канцы года ўзніклі цяжкасці з выплатай зарплаты людзям. Новы год сустрэлі з непагашанымі даўгамі за спажытую электраэнергію ў памеры 157 млн. рублёў. Энергетыкі пагражаюць за даўгі нават абясточыць частку вытворчых плошчаў. А самі льняныя ўгоддзі раскіданыя па ўсяму раёну, штогод прыходзіцца засяваць новыя плошчы. Нягледзячы на цяжкасці, калектыў спадзяецца з імі справіцца і завяршыць да пачатку новага сезона перапрацоўкі ў 3-м квартале сёлета намечаную рэканструкцыю. Па сутнасці побач са старым паўстане новы завод. Ужо заклалі падмурак для сучаснага новага вытворчага модуля, дзе з’явіцца і бельгійская лінія для кароткага валакна, а інвестыцыі па гэтаму праекту складуць больш 100 млрд. рублёў.

# Аб самым надзённым

## ТРЫ БАНКІ ЗНІЖАЮЦЬ СТАЎКІ ПА КРЭДЫТАХ НА ЖЫЛЛЁ ДЛЯ МАЛАЗАБЯСПЕЧАНЫХ ГРАМАДЗЯН




**Беручы пад увагу праблему досыць дарагіх жыллёвых крэдытаў, дзяржава прапрацавала гэта пытанне з некаторымі камерцыйнымі банкамі. Прэм’ер-міністр паведаміў, што «ААБ «Беларусбанк», «Белаграпрамбанк», «Белінвестбанк» ужо прынялі рашэнне крэдытаваць жыллё для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, пад 16%, у сельскай мясцовасці — пад 14%, для шматдзетных сем’яў — пад 12% гадавых. Пры гэтым ва ўрадзе плануюць укласціся ў планавую інфляцыю па 2013 годзе на ўзроўні 12%.**

■ БелаПАН

Буйныя беларускія дзяржбанкі — ААТ «ААБ «Беларусбанк», ААТ «Белаграпрамбанк» і ААТ «Белінвестбанк» — абвясцілі пра зніжэнне ставак па крэдытах на жыллё для малазабяспечаных грамадзян, якім патрабуецца паляпшэнне жыллёвых умоў.

У прыватнасці, «Беларусбанк» інфармуе, што з 25 лютага 2013 года істотна зменіць умовы выдачы фізічным асобам крэдытаў на фінансаванне нерухомасці. У прыватнасці, знізіцца да 16% гадавых працэнтная стаўка па нававыданых крэдытах на фінансаванне нерухомасці грамадзянам з невысокім узроўнем даходаў, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і не падпадаюць пад дзеянне ўказа ад 6 студзеня 2012 года № 13 «Аб некаторых пытаннях аказання грамадзянам дзяржаўнай падтрымкі пры будаўніцтве (рэканструкцыі) ці набыцці жылых памяшканняў». Грамадзянам, якія пастаянна жывуць і працуюць у населеных пунктах з колькасцю насельніцтва да 20 тыс. чалавек, такія крэдыты выдаюцца пад 14% гадавых, шматдзетным сем’ям — пад 12% гадавых.

«У мэтах павышэння даступнасці крэдытаў ААТ «Белаграпрамбанк» таксама прыняў рашэнне пра змяненне ўмоў выдзялення крэдытаў на будаўніцтва грамадзянам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. «У найбліжэйшыя дні банк пачне выдаваць малазабяспечаным грамадзянам рэспублікі, якія стаяць на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў, пастаянна жывуць і будуюць жылыя памяшканні ў сельскіх населеных пунктах, крэдыты ў беларускіх рублях на тэрмін да 20 гадоў з устанаўленнем працэнтнай стаўкі ў памеры 12% гадавых для шматдзетных сем’яў і 14% гадавых для іншых катэгорый пазычальнікаў», — гаворыцца ў паведамленні банка.

ААТ «Белінвестбанк» паведамляе, што асобнай катэгорыі грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, выдача крэдытаў на фінансаванне нерухомасці будзе ажыццяўляцца на ўмовах, устаноўленых банкам, і па наступных працэнтных стаўках: для тых, хто пастаянна жыве ў гарадах, — 16% гадавых; хто пастаянна жыве і працуе ў сельскай мясцовасці, — 14% гадавых; шматдзетным сем’ям — 12% гадавых.

Пры гэтым устаноўлена, што аб’ект нерухомасці, які будуецца за кошт выдадзенага крэдыту, павінен знаходзіцца ў населеным пункце, у якім заяўнік стаіць на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў.

Астатнія ўмовы выдачы крэдыту ўдакладняюцца. Арыенціровачны тэрмін пачатку прыёму дакументаў — 4 сакавіка 2013 года.

«Указаныя ўмовы будуць распаўсюджвацца толькі па нававыданых крэдытах. На раней выдадзеныя крэдыты грамадзянам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, гэтыя ўмовы не распаўсюджваюцца», — гаворыцца ў паведамленні «Белінвестбанка».

Нагадаем, 21 лютага прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку, што ў сферы будаўніцтва жылля на агульных падставах крэдытаванне «ідзе стабільна». Беручы пад увагу праблему досыць дарагіх жыллёвых крэдытаў, дзяржава прапрацавала гэта пытанне з некаторымі камерцыйнымі банкамі. Прэм’ер-міністр паведаміў, што «ААБ «Беларусбанк», «Белаграпрамбанк», «Белінвестбанк» ужо прынялі рашэнне крэдытаваць жыллё для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, пад 16%, у сельскай мясцовасці — пад 14%, для шматдзетных сем’яў — пад 12% гадавых. Пры гэтым ва ўрадзе плануюць укласціся ў планавую інфляцыю па 2013 годзе на ўзроўні 12%.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 28.02.13 | | | | Пятніца 01.03.13 | | | | Субота 02.03.13 | | | | Нядзеля 03.03.13 | | | | Пнд 04.03.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | +1 | +5 | +1 | -1 | 0 | +3 | 0 | -3 | -5 | -2 | -4 | -4 | 0 | +1 | -5 | -10 | -12 | -6 |
| Ціск | 750 | 747 | 744 | 739 | 734 | 734 | 734 | 736 | 739 | 742 | 744 | 743 | 738 | 729 | 731 | 737 | 745 | 751 | 754 |
| Вільготнасць | 88 | 92 | 54 | 67 | 80 | 81 | 60 | 74 | 71 | 69 | 38 | 42 | 71 | 95 | 68 | 71 | 72 | 75 | 49 |
| Вецер м/сек | 6 З | 7 З | 6 З | 8 З | 9 З | 9 З | 9 З | 8 Пн-З | 8 Пн-З | 6 Пн | 6 Пн-З | 3 Пн-З | 5 Пд | 7 З | 8 З | 10 Пн | 9 Пн | 5 Пн | 6 Пн |

## Дзень за днём

**У Беларусі загаварылі пра магчымасць ліквідацыі 1288 сельскіх і 56 пасялковых Саветаў дэпутатаў. За газіфікацыю свайго жылля і яго капрамонт ў далейшым беларусы будуць плаціць толькі самі. З-за працяглай адлігі шмат дзе на МКАД у Мінску ўтварыліся ямы, дзясяткі аўто былі пашкоджаны і кіроўцы мянялі свае колы. Да 15-20 балаў (летась было 7) павысілі мінімальны ўзровень адзнак абітурыентаў на цэнтралізаваным тэсціраванні, каб удзельнічаць у конкурсах па паступленні ў ВНУ. Вядучы ўніверсітэт краіны БДУ павялічыў план прыёму студэнтаў на 1-ы курс, але найбольш на платныя месцы. У цэлым па краіне набор на бюджэтную форму навучання крыху скарацілі.**

## Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Улады краіны вырашылі аказваць сірыйскай апазіцыі толькі гуманітарную дапамогу, не пастаўляць амерыканскую зброю, бо яна можа трапіць там тэрарыстам.

**Украіна.** Урад краіны вырашыў не плаціць "Газпраму" 7 млрд. USD за недабор газу ў 2012 годзе, а расійскае "блакітнае паліва" - замяніць венгерскім і славацкім газам.

**Венесуэла**. У краіне ўжо мала хто верыць, што цяжка хворы на рак прэзідэнт Уга Чавес паправіцца, палова насельніцтва хоча кардынальных перамен і лепшых адносін з ЗША.

**Іран.** З-за прававых і ўзнікшых тэхнічных праблем краіна спыніла сумесны праект з Беларуссю па 500 мільёнаў долараў па здабычы іранскай нафты на радовішчы Джафэйр.

**В'етнам.** За спробу звяржэння камуністычнага праўлення суд пакараў турмой ад 10 да 17 гадоў групу палітычных актывістаў апазіцыі, яе кіраўніка прыгаварылі да пажыццёвага зняволення.

**КНДР.** За год праўлення 24-мільённай паўгалоднай краінай новы лідар Кім Чэн Ын патраціў 1,3 млрд. USD на пускі ракет, за такія грошы можна было купіць ежы на 5 гадоў.

**Карэя.** У сусветныя лідары па продажы электронікі выйшла кампанія Samsung, яна прадала за год тавараў на 189 млрд. USD (рост на 86 %), атрымала прыбытку 27,2 млрд.

**Грэцыя.** Краіна пачала пакрыху выходзіць з крызісу, банкі аднавілі 60 % сваіх страт, у снежні грэкі і іх фірмы папоўнілі свае банкаўскія ўклады на 5,5 млрд. еўра ( на 3,5 %).

**Расія.** За год да адкрыцця гульняў сочынскай Алімпіяды кіраўніцтва РФ па просьбе Міжнароднага алімпійскага камітэта вырашыла вярнуць на ўсёй тэрыторыі зімовы час.

**Куба.** Праз некалькі месяцаў вельмі слабы 86-гадовы Ф. Кастра з'явіўся на публіцы, кубінцы гадаюць, хто прыйдзе на змену і яго 81-гадоваму брату Раулю, кіраўніку краіны.

**Венгрыя.** Для закрыцця да канца 2014 года неканкурэнтназдольных вугальных шахт краіна атрымае ад ЕС 140 млн. еўра і на стварэнне новых месц працы для шахцёраў.

**Бразілія.** З добра ахоўваемай турмы ў Рыа-дэ-Жанейра змаглі ўпершыню ўцячы адразу 27 вязняў, якія прарылі сапраўдны тунель і злучылі яго з каналізацыйнай сістэмай установы.

**Азербайджан.** Прэзідэнт І. Аліеў пазбавіў 75-гадовага Акрама Айліслі звання "народнага пісьменніка" і дзяржаўнай пенсіі за тое, што ў рамане "Каменныя сны" пашкадаваў армян.

**Расія.** На Навадзявочых могілках Масквы знайшоў вечны спакой кампазітар, аўтар многіх папулярных песень Аскар Фельцман, які пражыў 91 год і памёр ад праблем крывізвароту.

**Манака.** Пасля паражэння ад мясцовай каманды зборная Беларусі па тэнісе ў Кубку Дэвіса з сусветнай эліты скацілася на дно трэцяга дывізіёна і можа нават адтуль вылецець.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Расійскі пасол у РБ А. Сурыкаў пацвердзіў, што для Беларусі магчымая дастаўка ў парты Ленінградскай вобласці грузаў на 300 км даўжэй і хто такія страты ёй пакрые?

**Барысаў.** Кітайская кампанія Geely правяла аўдыт 10 беларускіх прадпрыемстваў аўтакампанентаў для ўдзелу ў сваім аўтазаводзе "Белджы" па выпуску да 60 тысяч аўто.

**Салігорск.** Прыбыткі Беларусі сёлета ад продажу калію знізяцца, бо кантракт з Індыяй па пастаўках 1 мільёна тон угнаенняў заключылі па цане, меншай за ранейшую на 63 долары за тону.

**Пружаны.** У бальніцы райцэнтра памёр ад менінгіту 2-гадовы хлопчык, за няпоўных 3 месяцы ў Беларусі было зафіксавана ўжо 6 падобных выпадкаў гібелі ад менінгіту: 5 дзяцей і дарослага.

**Мінск.** Адзін за другім заявілі аб зыходзе з пасад рэдактар "Советской Белоруссии" П. Якубовіч, кіраўнік прэс-службы прэзідэнта П. Лёгкі, быццам бы тэлевядучы АНТ А. Аверкаў.

**Баранавічы.** Праз суд былыя работнікі калгаса-банкрута "Петкавічы", які выкупіў бізнесмен з Расіі А. Лаўрушын і не расплаціўся з даўгамі, пачалі патрабаваць зарплату.

**Гродна.** У абласным цэнтры ўпершыню паспяхова правялі складаную аперацыю па трансплантацыі ныркі, у лісце чакання на гэту аперацыю больш 80 жыхароў вобласці.

**Мінск.** Расійскі незалежны тэлеканал "Дождж" паказаў, яу сталіцы судзяць нібыта звера ў жалезнай клетцы на сцэне вядомага беларускага мадэльера Аляксандра Варламава.

**Брэст.** У вобласці вырашылі закрыць яшчэ 19 малакамплектных сельскіх школ, а 11 – панізіць іх статус, зараз на Брэстчыне ёсць 800 класаў, дзе вучацца па некалькі дзяцей.

**Шклоў.** З мясцовай калоніі быў умоўна-датэрмінова вызвалены былы пракурор Мінскай вобласці М. Снягір, які адсядзеў тут амаль 4 гады з 7-мі за шэраг карупцыйных спраў.

**Магілёў.** У мясцовай закрытай турме экс-кандыдат у прэзідэнты М. Статкевіч даведаўся, што ўзнагароджаны прэміяй Вілі Брандта, яе атрымала за яго ў Берліне жонка палітыка.

**Будслаў.** Выява апякункі Беларусі Маці Божай Будслаўскай з дазволу Святой Зямлі будзе сёлета ўстаноўлена як мазаіка вышынёй 2 метры ў храме-санктуарыі ў Назарэце.

**Вілейка.** У родным горадзе пахавалі 16-гадовага іграка юнацкай зборнай РБ па баскетболе Сяргея Жука, які раптоўна памёр у душы пасля трэніроўкі ў вучылішчы алімпійскага рэзерву.

**Светлагорск.** З моцнымі апёкамі цела даставілі ў бальніцу 39-гадовую жыхарку вёскі Чкалава, яна самавольна падключыла газавы балон, той узарваўся і разбурыў жылы дом.

**Мінск.** «У нас няма адладжанай сістэмы падрыхтоўкі алімпійскага рэзерву», - заявіў на пасяджэнні калегіі Міністэрства спорту і турызму РБ віцэ-прэм'ер урада Анатоль Тозік.

## Школьныя буфеты заменяць сасіскі ў цесце, піцы, на піражкі з карысным начыннем



■ БЕЛТА

**Школьны буфет павінен прапаноўваць дзецям карысныя прадукты, а не толькі саладосці. Такое меркаванне падчас прэс-канферэнцыі на сайце БЕЛТА выказала загадчыца аддзяленнем гігіены дзяцей і падлеткаў Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Ала Малахава.**

Найвялікая колькасць пытанняў, па яе словах, менавіта да школьных буфетаў. «У свой час школьныя буфеты нават зачыняліся з-за таго рацыёну, які яны прапаноўвалі, аднак потым мы пайшлі іншым шляхам. Мы вырашылі развіваць буфеты з тым, каб яны прапаноўвалі дзіцяці больш карысных прадуктаў, якія папаўняюць дэфіцыт макра- і мікраэлементаў, вітамінаў і карысных рэчываў. Гэта добры дадатак да гарачага схарчавання», - адзначыла Ала Малахава. Па яе словах, у асартыменце буфета, які рэкамендаваны санітарнымі правіламі, заўсёды ў наяўнасці сокі, з утрыманнем сокавых рэчываў не меней 50%. У наяўнасці павінны быць і малочныя і кісламалочныя прадукты, узбагачаныя мікраэлементамі; салаты са свежай гародніны, садавіна. І толькі на апошнім месцы ўсякія ласункі, якіх па правілах павінна быць не больш за 10 найменняў.

«Аднак усё адно, імкнучыся атрымліваць прыбытак, буфеты грашаць тымі прадуктамі, якія гігіеністам не жадалася б бачыць у школьным харчаванні. Гэта разнастайныя ласункі, сасіскі ў цесце, піцы, смажні», - прызнала загадчыца. Тым не менш, адзначыла Ала Малахава, Мінск ужо пачаткаў барацьбу з гэтым. «Школы замяняюць такія некарысныя прадукты піражкамі з карысным начыннем - з капустай, курагой, яблыкамі: гэта ўсё ж лепш для дзяцей і карыстаецца сярод іх попытам», - падкрэсліла яна.

Ала Малахава асоба адзначыла, што ўсе выдаткі, якія сёння маюцца ў школах, - ад поўнай бескантрольнасці з боку бацькоўскіх камітэтаў і адміністрацый. «Гэтыя пытанні павінны кантраляваць у першую чаргу яны. Калі ў бацькоў ёсць нейкія пытанні па меню, яны ім незадаволены, варта звяртацца да дырэктара ўстановы адукацыі з пэўнымі прапановамі. Там, дзе гэта праца наладжана належным чынам, праблемных пытанняў няма», - заявіла загадчыца.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за малых зарплат з райбыткамбінатаў і КПП вобласці ў мінулым годзе звольніліся яшчэ 540 работнікаў, паўсюдна дэфіцыт кадраў, хоць сюды ўклалі 230 мільярдаў рублёў

**Орша.** З-за неадпаведнасці прадукцыі ўкраінскім нормам бяспекі (ўтрымання ў іх антыбіётыкаў) мясцоваму малочнаму камбінату Украіна забараніла ўвоз усіх яго вырабаў.

**Полацк.** Следчы камітэт РБ спыніў крымінальную справу супраць экс-мэра У. Тачылы, іншых службовых асоб горада і раёна, яны выплацілі цалкам нанесеную шкоду.

**Браслаў.** У гарпасёлку Відзы за кошт бюджэтных сродкаў пабудавалі дзіцячы дом сямейнага тыпу на 8 чалавек, такіх устаноў у вобласці стала 19, у іх жывуць 123 дзіцяці.

**Наваполацк.** Прэм'ера песні з рэфрэнам "Знает "Полимир" весь мир" упрыгожыла маштабныя ўрачыстасці з нагоды 45-годдзя завода "Палімір" у складзе ААТ "Нафтан".

**Шуміліна.** У арачніках былой райсельгасхіміі фірма з Расіі пачала ствараць буйны дрэваапрацоўчы комплекс з 10 цэхаў на 400 працуючых, аб'ём інвестыцый складзе 15 мільёнаў еўра.

**Паставы.** Сучасны гандлёвы цэнтр "Парыж" у аднайменным аграгарадку быў абрабаваны ноччу, калі злачынцы разбілі шклопакет і забралі выручку і тавараў больш чым на 15 мільёнаў рублёў.

**Глыбокае.** Бронзавы прызёр Алімпіяды Марына Шкерманкова заявіла, што каб у Лондан узялі яе трэнера Віктара Вінніка, то вынікі яе выступлення там былі б яшчэ лепшымі.

**Лепель.** Будаўнікі мясцовай ПМК-75 пачалі ўзвядзенне сучаснай фермы ў вёсцы Паўсвіжа коштам 40 мільярдаў рублёў, а былы цэнтр дзіцячай творчасці стане краязнаўчым музеем.

**Верхнядзвінск.** Паблізу расійскай граніцы міліцыя сумесна з КДБ затрымалі на дарозе тры іншамаркі з Латвіі і Літвы, у якіх знайшлі 8 каністр са спіртам і 23 бутэлькі гарэлкі.

**Чашнікі.** На 3 з паловай гады суд направіў у калонію строгага рэжыму браканьера, якога неаднаразова затрымлівалі летась на возеры Лукомскім за лоўлю рыбы сеткамі.

**Орша.** Каб правучыць і адпомсціць свайму сыну 59-гадовы аршанец арганізаваў у Шклове падпал яго аўтамабіля, за што разам з падзельнікам атрымалі па 3 з паловай гадоў турмы.

**Віцебск.** Да радасці прыхільнікаў шматпакутнага ФК "Віцебск" галоўны трэнер Юрый Канаплёў адмовіўся ад пераезду на працу ў Казахстан і стаў рыхтаваць каманду да сезона.

**Полацк.** Традыцыйны веснавы фестываль старажытнай і сучаснай камернай музыкі сёлета будзе прысвечаны 30-годдзю канцэртнай залы Сафійскага сабора з абноўленым арганам.

**Шаркаўшчына.** На працягу паўмесяца праходзіў чэмпіянат раёна па валейболе сярод мужчын памяці былога рэдактара райгазеты Эдуарда Корсака, які захапляўся гэтым відам спорту.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін сышоў у адстаўку, яго часова замяніў Францішак Кісель



Ксёндз пралат Францішак Кісель паходзіць з Глыбоччыны.

25 лютага Папа Бенедыкт XVI прыняў прашэнне біскупа Уладзіслава Бліна [г.н. 1954] аб адстаўцы з кіравання Віцебскай дыяцэзіяй у Беларусі. Адначасова Папа прызначыў Апостальскім адміністратарам sede vacante et ad nutum Sanctae Sedis Віцебскай дыяцэзіі ксяндза пралата Францішка Кісяля, да гэтага Генеральнага вікарыя той жа дыяцэзіі.

Кс. Францішак Кісель нарадзіўся 1 красавіка 1959 г. на Глыбоччыне. Пасля заканчэння школы і вучобы ў Віцебскім тэхнікуме сувязі служыў у войску. У 1982 г. паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Рызе, пасля заканчэння якой атрымаў святарскае пасвячэнне ў 1987 г. У якасці святара пачаў сваё служэнне ў латвійскім марыйным санктуарыі ў Аглоне, а потым працаваў у Браславе. Восенню 1992 г. быў пераведзены ў Полацк, дзе служыць ужо на працягу больш, чым 20 гадоў. За гэты час, дзякуючы яго намаганням, у горадзе быў пабудаваны касцёл св. Андрэя Баболі – сімвал адраджэння каталіцтва на Полаччыне. Акрамя таго, у суседнім Наваполацку, ён заснаваў парафію Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Ад стварэння Віцебскай дыяцэзіі ў 1999 г. кс. Кісель з'яўляўся яе Генеральным вікарыем.

Біскуп Уладзіслаў Блін быў прызначаны біскупам Віцебскай дыяцэзіі 13 кастрычніка 1999 г. дэкрэтам папы Яна Паўла II. Біскупскую сакру атрымаў 20 лістапада 1999 г. з рук кардынала Казіміра Свёнтка.

14 чэрвеня 2006 г. абраны намеснікам старшыні Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі. З'яўляўся старшынёй Экуменічнай камісіі, а таксама Камісіі агульнага душпастырства епіскапату Беларусі.

*piligrymka.by*

# Ліквідацыя наступстваў снегападаў у Глыбокім



■ Яўген Самсонаў

**Глыбоцкім райвыканкамам распрацаваныя і зацверджаныя мерапрыемствы па барацьбе з наступствамі снегападаў. Галоўныя вуліцы горада замацаваныя за камунальнікамі, астатнія – падзеленыя і абслугоўваюцца бліжэйшымі прадпрыемствамі і арганізацыямі горада.**

Пашчасціла жыхарам тых вуліц, дзе кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый уважліва і з адказнасцю адносяцца да ўзятых абавязкаў. А вось жыхары завулка Кірава, які, згодна распараджэння райвыканкама, абслугоўвае ААТ "Глыбоцкі аграсервіс", незадаволеныя працай сваіх "выратавальнікаў". Яшчэ напачатку зімы неаднаразова звярталіся ў дыспетчарскую і да кіраўніцтва аграсервіса па прычыне незадавальняючай працы трактара па ачыстцы завулка ад снегу, які амаль у два разы звузіў праезжую частку вуліцы. Нават з пешаходам было небяспечна размінацца. Дзякуй Богу, што зіма лагодная і няма завірух. У лютым, да трэцяй дэкады, па прычыне няспраўнасці трактара, завулак увогуле не чысціўся ад снегу і таму ўтварылася глыбокая каляя.

Падчас чарговага снегападу, аб'язджаючы другую машыну, аўтатранспарт аўтара гэтых радкоў сцягнула ў каляю. Як вынік - мая машына атрымала пашкоджанне.

На мае прэтэнзіі галоўны інжынер ААТ "Глыбоцкі аграсервіс" Валерый Валынец адказаў, што, па-першае, чысціць снег па вуліцах - гэта добраахвотна-прымусовы абавязак, які запатрабаваны райвыканкамам, і ў якасці аргумента спаслаўся на тое, што па вуліцы Садовай дарога таксама дрэнна пачышчаная. Па-другое, зламаўся трактар ды і ўвогуле - няма паліва, засталося яго толькі 25 літраў. Тут бы кароў падаць. Наконт пашкоджання аўтамабіля параіў вызваць ДАІ і звяртацца ў суд, але папярэдзіў, што хутчэй за ўсё гэта справа дарэмная, бо, наколькі яму вядома, было толькі 2 чалавекі і то - набліжаныя да ўлады, якія выйгралі справу па ДТЗ у судзе.

З нагоды вышэй узгаданага паўстаюць пытанні: навошта ў райвыканкаме прымаюць такія рашэнні, калі арганізацыі па розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах не ў стане іх выканаць, хто нясе адказнасць за іх выкананне? Хто абароніць нашы правы і інтарэсы, гарантаваныя Кастытуцыяй, бо падаткі мы плоцім спраўна?



Завулак Кірава. Дзве машыны не размінуцца, а куды падзецца пешаходу – лезці ў сумёты?

# Лідарам сярод рэгіёнаў Беларусі па росце рэальнай зарплаты з'яўляецца Брэсцкая вобласць

**Лідарам сярод рэгіёнаў Беларусі па росце рэальнай заработнай платы з'яўляецца Брэсцкая вобласць – тэмп росту рэальнай заработнай платы ў студзені 2013 года да ўзроўню студзеня 2012-га склаў 127,3 працэнта. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

Гэты паказчык у Гродзенскай вобласці складаў 126,6 працэнта, у Мінску – 126,2 працэнта, у Магілёўскай вобласці – 124,7 працэнта, у Віцебскай – 122,6 працэнта, у Гомельскай вобласці – 122,2 працэнта, у Мінскай – 111,5 працэнта.

Мінск традыцыйна лідзіруе ў рэспубліцы па ўзроўні намінальнай налічанай сярэдняй заработнай платы. Паводле аператыўных статыстычных даных, сярэдняя заработная плата ў Мінску ў студзені гэтага года склала Br 5 млн. 705 тыс. На другой пазіцыі па гэтым паказчыку – Мінская вобласць (Br 4 млн. 306,9 тыс.), на трэцяй - Гомельская вобласць (Br 4 млн. 168,2 тыс.). Сярэдні студзеньскі заробак у Магілёўскай вобласці складаў Br 3 млн. 992,3 тыс., у Гродзенскай - Br 3 млн. 920 тыс., у **Віцебскай - Br 3 млн. 882,3 тыс.,** у Брэсцкай - Br 3 млн. 814,6 тыс.

Як раней паведамлялася БЕЛТА, намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў Беларусі ў студзені 2013 года склала Br 4 млн. 368 тыс. і ў параўнанні са снежнем 2012-га зменшылася на 7,9 працэнта, або на Br 373,3 тыс. Рэальная заработная плата (заработная плата, разлічаная з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у студзені 2013 года ў параўнанні са студзенем 2012-га павялічылася на 22,9 працэнта, у параўнанні са снежнем 2012 года - зменшылася на 10,6 працэнта.

*БЕЛТА*

# У Маладзечанскім раёне затрыманы найбуйнейшы ў краіне аптовы вытворца самагону

**Вечарам 19 лютага на тэрыторыі прыватнага домаваладання ў вёсцы Скавародкі Маладзечанскага раёна супрацоўнікі міліцыі Мінскай вобласці сумесна з байцамі АМАПа УУС Мінаблвыканкама ліквідавалі найбуйнейшую з выяўленых на сёння ў краіне вытворчасць самагону.**

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Мінаблвыканкама, міні-завод па вытворчасці алкаголю размяшчаўся ў спецыяльна пабудаваным вытворчым памяшканні з усімі неабходнымі камунікацыямі, працэс вырабу спіртнога быў аўтаматызаваны.

Непрацоўны мясцовы жыхар прыцягваў для вытворчасці самагону наёмных работнікаў. Ён затрыманы. Тэрыторыя завода агароджана высокім плотам, ахоўвалася сабакамі.

На тэрыторыі міні-завода знойдзена больш за 6 тысяч літраў сурагату, а таксама больш за 30 тысяч літраў адходаў самагонаварэння. На дэмантажы і знішчэнні апарата, вага якога складае некалькі тон, працуе спецыяльная тэхніка.

***Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.***

# Цэны на некаторыя маркі цыгарэт у Беларусі ў сакавіку павысяцца на 0,6-4,6 працэнта

**У сакавіку павысяцца цэны на некаторыя маркі цыгарэт, якія вырабляюцца на тэрыторыі Беларусі, на 0,6-4,6 працэнта. Аб гэтым паведамілі БЕЛТА ў Міністэрстве па падатках і зборах.**

У сакавіку ў параўнанні з лютым 2013 года павысяцца цэны на некаторыя маркі цыгарэт з фільтрам вытворчасці ААТ «Тытунь-інвест». Так, на два віды цыгарэт «Карона» цэны павышаюцца з Br4600 да Br4700 за пачак. Таксама ўстаноўлены цэны на дзве новыя назвы - «Карона стыль» і «Карона эліт» - Br4500 за пачак.

На два віды цыгарэт «Форт» цэны зменяцца з Br4300 да Br4500, на пяць відаў Monte Carlo – з Br7900 да Br7950.

*БЕЛТА*

# У Беларусі плануюць адмовіцца ад службовага жылля на карысць арэнднага

**У Беларусі плануецца адмовіцца ад службовага жылля на карысць арэнднага. Гэта тэма абмяркоўвалася сёння на рабочай сустрэчы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.**

Прэзідэнт засяродзіў увагу Міхаіла Мясніковіча на пытанні прадастаўлення службовага жылля. «Напэўна, нам трэба неяк адыходзіць ад фонду службовага жылля, які мы стварылі. Трэба ствараць фонд арэнднага жылля», - лічыць кіраўнік дзяржавы.

Прэзідэнт запатрабаваў, каб гэтыя пытанні былі ўрэгуляваны ў першым паўгоддзі. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы лічыць магчымым пакінуць пэўную колькасць кватэр або дамоў, якія будуць належаць да фонду службовага жылля і ў выключных выпадках выдзяляцца па рашэнні ўрада або па ўзгадненні з Прэзідэнтам.

*БЕЛТА*

**Вакол Кастуся Каліноўскага зараз шмат спрэчак. Ангажаваныя ў нацыянальны дыскурс інтэлектуалы абураюцца, што асобныя прыдворныя гісторыкі не лічаць кіраўніка антыцарскага паўстання 1863 г. у Беларусі нацыянальным героем.**

## Захар Шыбека:
# Зразумець Каліноўскага

Але важна не толькі паказваць абсурднасць поглядаў абсалютна ангажаваных у расійскую традыцыю асобаў на беларускую гісторыю. Важна і самім беларусам зразумець Каліноўскага. А зразумець Каліноўскага, значыць зразумець гісторыю Беларусі XIX ст., значыць стаць патрыётамі Беларусі. Толькі, каб зразумець Каліноўскага і яго эпоху, трэба паглядзець на тое далёкае мінулае вачыма нашага героя.

Хай нікога не засмучае, што Каліноўскі змагаўся за адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). У той час, калі ён жыў, афіцыйнай назвы «Беларусь» для ўсяго краю не існавала. А таму ён мог змагацца толькі за тое, што было ў рэальнасці, за аднаўленне знішчанага царызмам ВКЛ.

Пра тое, што гэту адноўленую і абноўленую дзяржаву ён бачыў беларускай, сведчыць яго імкненне адрадзіць уніяцтва, якое было чужым і для палякаў і для літоўцаў, бо яны спавядалі каталіцызм. Пра гэта сведчыць і тое, што ён звяртаўся да свайго народа на яго роднай мове («браты мае, мужыкі родныя», «дарагі мой народзе») і дзеля яго ахвяраваў сваім жыццём. Ён не шкадаваў рэзкіх слоў для спаланізаваных памешчыкаў, гаварыў пра Бацькаўшчыну і дыстанцыяваўся ад Польшчы, але заклікаў сваіх «дзецюкоў» (хлопцаў) браць прыклад у барацьбе за волю з польскіх мужыкоў.

Застаецца, на жаль, дакладна невядомым — якое месца ў новым ВКЛ беларускі правадыр адводзіў яўрэям і літоўцам.

Яго сціплая літаратурная спадчына не дазваляе меркаваць пра гэта. Але, хутчэй за ўсё, ВКЛ бачылася Каліноўскаму як правобраз сучаснай дзяржавы, дзе прадстаўнікі розных этнасаў жывуць супольна і раўнапраўна, гэта значыць, твораць адзіную палітычную нацыю. Продкаў сучасных літоўцаў Каліноўскі, нібыта, не заўважаў, а да яўрэяў адносіўся добразычліва. У «Пісьмах з-пад шыбеніцы» ён пісаў, што пасля пераходу памешчыкаў на бок паўстанцаў, «маскалі», каб уратавацца, пачалі прыпісвацца нават да яўрэйскіх брацтваў, але яўрэі не прымаюць «такіх, што нажлапталіся [напіліся] нямала і слёз, і крыві жыдоўскай». Але яўрэі нідзе не ўзгадваюцца Каліноўскім у якасці саюзнікаў. У той час яўрэйская абшчына яшчэ жыла сваім ізаляваным рэлігійным жыццём, у палітыку не ўмешвалася і нават з надзеяй чакала ад цара Аляксандра II пашырэння сваіх правоў.

Калі б мары Кастуся Каліноўскага здзейсніліся, краіна сучасных беларусаў магла б называцца Літва, а яны самі — ліцвінамі.

Дык чаму ж тады нашы продкі не захавалі ліцвінскі праект стварэння сучаснай нацыі пад назвай «Вялікае Княства Літоўскае» ці «Літва», які прапаноўваў Каліноўскі, а ўзяліся за рэалізацыю нацыянальнага праекта пад назвай «Беларусь»? Чаму правінцыйная назва «Беларусь», урэшце, замацавалася ў канцы XIX — пачатку XX ст. за ўсёй этнічнай тэрыторыяй сучасных беларусаў?

Каб адказаць на гэта пытанне, трэба ведаць, што гэта за дзяржава ВКЛ і як яе трактаваць.

Гэта праблема зараз застаецца адной з самых карэнных у сучаснай беларускай гістарыяграфіі. Скажам тут толькі пра самае простае. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — так гучала яго поўная назва. У сучаснай сусветнай гістарыяграфіі гэту поўную назву пісаць, неяк, не прынята. Можа таму, што іначай даследчыкам, якія лічаць гэту дзяржаву літоўскай (у сучасным сэнсе) прыйдзецца перагледзець свае канцэпцыі. На маю думку, поўная назва Княства сведчыць аб вялікай ролі ў гэтай дзяржаве беларусаў, украінцаў і літоўцаў, якіх раней называлі ліцвінамі (літоўцамі), русінамі і жамойтамі. Пасля распаду Савецкага Саюза гэтыя народы вярнуліся да актыўнага нацыянальнага жыцця і сталі прэтэндаваць на ВКЛ. Спробы вырашыць праблему па прынцыпе — гэта дзяржава не ваша, а наша — аказалася зусім не прадуктыўнай і яна ніколі не прывядзе да паразумення паміж беларусамі, літоўцамі ды ўкраінцамі. Таму, на мой погляд, не варта ўвогуле даваць гэтай сярэднявечнай дзяржаве нейкае нацыянальнае вызначэнне, як гэта і рабіў Каліноўскі. Тым больш, што ў часы ВКЛ сучасных нацый і не існавала. Проста гэта была дзяржава, якая стала калыскай для трох сучасных нацыянальных дзяржаў — беларускай, літоўскай, украінскай. Усе гэтыя народы маюць права на гісторыка-культурную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

З гэтага вынікае, што беларусаў нельга лічыць негістарычнай нацыяй. Міфы пра гістарычную непаўнавартасць сучасных беларусаў, пра іх адвечным адзінстве з рускімі і пра заваёву беларусаў літоўцамі былі створаны па загадзе расійскай імператрыцы Кацярыны II (1762–1796) пасля захопу Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Фальсіфікацыя падмацоўвалася жорсткай рэвізіяй і знішчэннем неадпаведных гістарычных дакументаў на працягу ўсяго перыяду існавання царызму. Хто ведаў сапраўдную гісторыю краю, не забыўся пра яе, той змагаўся з царскай няволяй. Кастусь Каліноўскі добра ведаў гісторыю свайго народа і адстойваў яго права на гісторыка-культурную спадчыну сярэднявечнага Княства.



Дарэчы, пазней царскія міфы перанялі гісторыкі Польшчы, Літвы, Савецкага Саюза і, практычна, усяго свету. Расійская фальшыўка і зараз выдаецца ў сусветнай гістарыяграфіі за сапраўдную гісторыю Беларусі ад старажытных часоў да 1917 г.

Вобраз ВКЛ быў выціснуты з памяці беларускага народа, што вельмі аслабіла яго нацыянальны дух.

Урад Расійскай імперыі дзяліў тэрыторыю захопленага Княства на Беларусь і Літву, а дакладней — на Беларускае і Літоўскае генерал-губернатарствы. Хоць раней у Княстве правінцый было больш: Літва, Русь, Жамойць, Палессе і інш. Назва «Белоруссия» існавала дзесьці на маргінесе і ў маскоўскай традыцыі.

Падзел ВКЛ на Беларусь і Літву рабіў паглынанне Расіяй захопленых земляў больш лёгкім. Ён праводзіўся ў два этапы: спачатку Беларусь, а потым — Літва. Аднак хоць тэрыторыя былога ВКЛ і мела рэгіянальныя адметнасці (асабліва на ўсходзе), яна працягвала ўсё ж захоўваць сваё адзінства і своеасаблівасць як асобны рэгіён Расійскай імперыі аж да яе распаду. Сімвалам адзінства тэрыторыі былога ВКЛ можна лічыць знакамітага паэта Адама Міцкевіча і яго творчасць. Край лучылі традыцыя і памяць, адзіныя законы (Літоўскі Статут дзейнічаў да 1840 г.), сужыццё з вялізарнай яўрэйскай абшчынай, запёртай у рысе аселасці, а таксама царская палітыка дыскрымінацыі мясцовага насельніцтва. Такім, адзіным, успрымаў свой край і Каліноўскі, які змагаўся за яго вызваленне з-пад гнёту Расіі.

Тэрыторыя былога Княства заставалася ў сферы еўрапейскага ўплыву, захоўвала еўрапейскія традыцыі, таму непазбежна станавілася актыўным правадніком еўрапейскіх уплываў на царскую імперыю.

Кастусь Каліноўскі добра разумеў перавагу сваёй Бацькаўшчыны над Расіяй з яе традыцыямі дэспатызму, таму ставіўся да гэтай дзяржавы з пагардай, а расійскіх сялян зваў да супольнай барацьбы супраць царызму. Гэты апошні нюанс у поглядах Каліноўскага неяк не заўважаюць ці не ведаюць сучасныя ворагі беларускага лідэра. Складваецца ўражанне, што яны б маглі павесіць яго, як «ворага» Расіі, у другі раз.

Фактычна і ў свядомасці людзей, якія апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, заставалася адзінае для свайго Краю назва – «Літва». Накінутая ім царызмам назва «Беларусь» спачатку прыжылася толькі ў памежжы з унутранай Расіяй.

Але і там (Віцебская, Магілёўская губерні) у першай палове XIX ст. інтэлектуалы лічылі сябе ліцвінамі (літоўцамі). Так, Арцём Вярыга-Дарэўскі (1816–1884) з Віцебшчыны — беларускамоўны літаратар і перакладчык паэмы Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод» — казаў, што ён — літовец, а сваю мову называў літоўскай.

Пасля антыцарскага паўстання 1830/31 гг. стала відавочным, што замацаванне назваў «Літва» і «Беларусь» за пэўнымі тэрыторыямі абцяжарвала інкарпарацыю Края ў імперыю, бо абуджала ў іх жыхароў рэгіянальную ідэнтычнасць.

У 1840 г. расійскі імператар Мікалай I забараніў называць губерні на тэрыторыі былога ВКЛ Беларускімі і Літоўскімі. У справах камітэта міністраў Расіі 26 чэрвеня на гэты конт зроблены такі запіс: ***«По случаю поднесения императору указа, в котором упоминались губернии Белорусские и Литовские, государь, зачеркнув название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с наименованием губерний каждой отдельно Витебская, Могилевская, Виленская и Гродненская, причем последовало повеление собственноручное: «Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая как поименно губернии!»*** Царскі загад меў свае вынікі. З афіцыйнай тэрміналогіі найперш выціскалася назва «Літва». У той жа год было канчаткова забаронена і ўжыванне ў справаводстве «Статута ВКЛ». Афіцыйная ж назва «Беларусь» захоўвалася ў большым памеры. Пачаўся другі этап русіфікацыі заходняй часткі былога Княства. Праводзілася поўнае замоўчванне або нават знішчэнне культурнай спадчыны гэтага Княства. Літва для ўладаў перастала існаваць.

У 1863 г. паўстанцы з сучасных Літвы і Беларусі яшчэ змагаліся за адраджэнне адзінага ВКЛ.

Левае крыло чакала падтрымкі ад сялян. Крыло памяркоўных і больш рацыянальных асноўныя надзеі ўскладала на падтрымку заходніх краін. Толькі так можна было вырвацца з-пад расійскага ярма, бо надзеі на падтрымку народа або дэмакратызацыю Расіі былі маларэальнымі. Аднак еўрапейцы не прыйшлі на дапамогу паўстанцам, як гэта зрабілі вяры Рэчы Паспалітай, калі ў еўрапейскія краіны ўрынуліся арабскія заваёўнікі. У выніку спроба паўстанцаў на чале з Каліноўскім адрадзіць вольнае ад Расіі ВКЛ у якасці дзяржавы для продкаў сучасных беларусаў скончылася паражэннем і вынішчэннем мясцовай эліты. Публічна бараніць гістарычную спадчыну ВКЛ для тагачасных беларусаў аказалася некаму.

Такой сітуацыяй і царскай палітыкай замоўчвання пра Літву скарысталіся продкі сучасных літоўцаў, якія называліся раней жамойтамі, аўкшайтамі (магчыма, што і літоўцамі). З дапамогай Прусіі яны манапалізавалі спадчыну ВКЛ разам з назвамі «Літва», «літоўцы». Царскія ўлады не перашкаджалі. Ім гэта было нават выгадна. Продкі сучасных беларусаў адхіляліся ад вялікай спадчыны. Гэта спадчына лакалізавалася на этнасе невялікім па колькасці і па займаемай ім тэрыторыі. Пазбаўленыя памяці пра сваё мінулае, беларусы лёгка потым станавіліся рускімі. Таму пачатковая перавага літоўскага нацыянальнага праекта над беларускім праектам абумоўлівалася, акрамя іншых прычын, і палітыкай Прусіі і Расіі. Яны, магчыма, спецыяльна і не падтрымлівалі літоўскі нацыянальны рух, але асабліва не шкодзілі яму. І найперш гэта адносілася да Прусіі.

Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў загадаў павесіць Кастуся Каліноўскага. Разам з ім ён засіліў і больш перспектыўны ліцвінскі праект стварэння сучаснай беларускай нацыі. Ход далейшых падзеяў, звязаных са стратай памяці пра ВКЛ, ужо адбываўся пасля Каліноўскага.

Мой досвед вывучэння гісторыі Беларусі пераконвае, што ў пераможнікаў Кастуся Каліноўскага не было ніякіх рэальных шанцаў ажыццявіць яго мары — адрадзіць ВКЛ і стаць ліцвінамі. Але пра тое, што беларусы былі ліцвінамі ,варта памятаць.

Пасля ўсяго сказанага можа і стала больш зразумелай постаць Кастуся Каліноўскага і яго роля ў барацьбе беларусаў за свабоду. Ён хацеў адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) у якасці незалежнай ад Расіі дзяржавы для сучасных беларусаў і першым заявіў аб праве свайго народа на ВКЛ.

Будучы рэалістам, ён хацеў зрабіць гэта ў саюзе з палякамі. Ён хацеў вярнуць да жыцця ўніяцтва ў якасці пануючай канфесіі для сваіх суайчыннікаў, бо ва ўмовах супрацьстаяння праваслаўнай і каталіцкай царквы ў яго краі ён першым зразумеў ролю ўніяцтва ў барацьбе свайго народа за самазахаванне. Ён стаяў ля вытокаў беларускай нацыі пад назвай «ліцвіны». Гэта было зусім лагічна з пункту гледжання натурфіласофіі, якой прытрымліваўся Кастусь Каліноўскі. Пасля падзей 1863 г. пройдзе яшчэ шмат гадоў, перш чым беларускі народ уключыцца ў нацыянальнае жыццё. І ў гэтым быў трагізм яго першага нацыянальнага правадыра.




**Касінеры Каліноўскага.**
Малюнак часоў паўстання. Крыніца: французскі часопіс L`ILLUSTRATION, journal universel.

